# РЭГІЯНАЛЬНАЯ Беларусь

Бюлетэнь Каардынацыйнага Камітэта "Гродзенская ініцыятыва"

Люты 2000 г. №2


## СЕМІНАР У ГРОДНЕ

**18-19 лютага адбыўся семінар на тэму "Мясцовае кіраванне, рэгіянальнае эканамічнае развіццё, вяршэнства закона", падрыхтаваны мінскай Кансультатыўна-назіральнай групай АБСЕ. Удзел у мерапрыемстве прынялі прадстаўнікі палітычных партый і грамадскіх рухаў Гродзеншчыны, кіруючыя асобы аблвыканкама.**

**Да прысутных з прывітальнымі словамі з'вярнуліся старшынствуючы на семінары пан Клаус (Інстытут Густава Штрэземана, Германія) і пан Рывалье (дарадца КНГ АБСЕ у Беларусі).**

У першы дзень работы семінара старшыня Навагрудскага гарадскога Савета дэпутатаў **Сяргей Чубрык** зрабіў даклад па тэме "Мясцовае кіраванне і самакіраванне: вопыт Беларусі і замежны вопыт". Доктар юрыдычных навук, прафесар **Мікалай Сільчанка** падрыхтаваў выступленне "Аб тым, чаму ў Рэспубліцы Беларусь не была сфарміравана сістэма самакіравання".

Замежныя ўдзельнікі **Гінтаўтас Гегужынскас** (Літва), **Томас Ірса** (Чэхія), **Тадэвуш Врона** (Польшча), **Жан-Клод Фрэкон** (Францыя), **Томас Прайс** (АБСЕ), **Рудзігер Нольман** (Германія) адпаведна раскрылі сутнасць пытанняў "Літоўскі вопыт мясцовага кіравання", "Дэцэнтралізацыя ў Чэшскай Рэспубліцы", "Тэрытарыяльнае самакіраванне — шанц для грамадзянскай супольнасці", "Дэцэнтралізацыя ў Францыі ", "Транспамежнае супрацоўніцтва", "Эканамічныя аспекты мясцовага самакіравання ў Германії".

Старшыня Лідскага гарвыканкама **Уладзімір Малец** распачаў размову аб рэгіянальным эканамічным развіцці.



**Ханс - Георг Вік**

Старшыня Каардынацыйнага Камітэта "Гродзенская ініцыятыва" **Сямён Домаш** прысвяціў сваё аналітычнае выступленне эканамічнаму развіццю Гродзенскага рэгёна ў 1997-1999 гадах.

У другі дзень работы семінара абмен думкамі працягвалі юрысты **Ігар Белы** (абласная калегія адвакатаў", **Алег Куц** (дырэктар юрыдычнага прадпрыемства "Куц і сыны"), **Іван Маргулец** (юрыдычны эксперт), доктар юрыдычных навук, прафесар **Уладзімір Хоміч**, суддзя з Францыі **Жан-Ів Мак Кі**. Яны выказалі сваё разуменне тэмы "Вяршынства закона".

Па ўсіх узнятых праблемах вялася ажыўленая дыскусія.

У рабоце семінара прымалі ўдзел старшыня кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Мінску пан **Ханс -Георг Вік**, а таксама намеснікі старшыні аблвыканкама **Міхаіл Бляяеў** і **Марыя Бірукова**, адказныя работнікі ўпраўленняў абласнога выканаўчага камітэта, старшыня абласнога Савета дэпутатаў **Аркадзь Карпуць.**

***(Матэрыялы, прысвечаныя семінару, гл. на 2-й стар.).***

■ Навіны Гродзеншчыны

## Забастоўка прызнана незаконнай

Забастоўку лесацэха акцыянернага таварыства «Мастоўдрэў», якая нядаўна там адбылася, адміністрацыя прызнала незаконнай. На думку кіраўніцтва, рабочыя не выканалі патрабаванняў працоўнага кодэксу.

На баку адміністрацыі выступіла і кіраўніцтва афіцыйнага прафсаюза прадпрыемства (старшыня прафкама Раінчык). Тым не менш, 16 лютага не прыступілі да работы працаўнікі лушчыльнага і клеевага цэхаў. У гэты час збіраліся подпісы з патрабаваннем павышэння зарплаты.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Дзень Святога Валянціна

Гродзенская моладзь актыўна адзначыла Дзень Святога Валянціна. Сумесны пікет, арганізаваны актывістамі Маладога Фронту і Маладой Грамады, прыцягнуў увагу шматлікіх гродзенцаў. Як і бел-чырвона-белы нацыянальны сцяг. На гэты раз гарадскія ўлады далі дазвол на правядзенне мерапрыемства. Прахожыя атрымалі антыСНІДаўскія лістоўкі, віншаванні з Днём усіх закаханых, календарыкі з адпаведнымі надпісамі. Адбылася растлумачальная гутарка з прадстаўнікамі міліцыі.

На жаль, не выканаў папярэдняй дамоўленасці Генеральны консул Польшчы ў Гродне Сільвестр Шостак, які павінен быў прыняць ад маладых гродзенцаў петыцыю, у якой выказвалася падзяка суседняй дзяржаве за прыклад у эканамічных рэформах. Дыпламат раптоўна з"ехаў па пільных справах.

**Павел МАЖЭЙКА**

# Прымалі ўдзел у абмеркаванні

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Арганізатары семінара (КНГ АБСЕ у Мінску) імкнуліся, каб у зале пасяджэнняў аблвыканкаму, дзе праходзіла мерапрыемства, сабраліся прадстаўнікі найбольш уплывовых няўрадавых арганізацый Гродзеншчыны. Даклады ўтрымлівалі супрацьлеглыя пункты гледжання. Удзел у абмеркаванні маглі браць усе жадаючыя. Гэтую магчымасць выкарысталі многія прадстаўнікі апазіцыі.

Сярод прысутных было шмат кіраўнікоў грамадскіх арганізацый і палітычных партый, якія ўваходзяць у склад Каардынацыйнага камітэта "Гродзенская ініцыятыва". У тым ліку — доктар медыцынскіх навук, прафесар Алесь Астроўскі (Таварыства вышэйшай беларускай школы), Сяргей Мальчык (БНФ "Адраджэньне"), Міхаіл Патрэба (БСДП «Народная Грамада»), Аляксандр Пагуляеў (рэгіянальная моладзевая арганізацыя "Наша салідарнасць"), а так сама Анатоль Хацько (старшыня прафкама завода аўтаагрэгатаў), кіраўнікі Свабодных прафсаюзаў Аляксандр Чарней і Адольф Зацэпін; Станіслаў Суднік (літаратар, Ліда), шмат прадпрымальнікаў і інш.

Выступоўцам-"вертыкальшчыкам" давялося добра папацець, адказваючы на пытанні лідэраў рэгіянальнай апазіцыі. Не выручалі і падрыхтаваныя шпаргалкі. Суровая рэчаіснасць сведчыць, што ідэя пабудовы ў Беларусі так званага рынкавага сацыялізму збанкрутавала. Але службовыя асобы прызнацца ў гэтым не маглі, спрачаліся, спасылаючыся на ўяўныя лічбы і факты. Відаць, зусім не бываюць сярод простых людзей. Каб усё было так добра, як гавораць афіцыйныя асобы, то не спатрэбіліся б міліцэйскія пасты ні ў абл-і гарвыканкамах, ні ў судовых органах. Значыць, нешта не тое дзеецца...

**Антон Лабовіч**

# Уладу экзаменуе эканоміка



**Выступленне старшыні Каардынацыйнага Камітэта "Гродзенская ініцыятыва" Сямёна Домаша было пабудавана на канкрэтных фактах. Сябра Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, былы старшыня абласнога Савета дэпутатаў, былы старшыня аблвыканкама валодае прадметам гаворкі. Эканамічныя "дасягненні" рэгёна за 1997-1999 г.г. гавораць самі за сябе. Вось, напрыклад, некаторыя вытрымкі з паведамлення.**

● У 1997 годзе прадпрыемствамі Гродзеншчыны было выпушчана прадукцыі на 39,4 трлн. рублёў (каля 1,5 млрд. долараў). 75 працэнтаў прадукцыі рэалізавана ў межах Беларусі, 25 працэнтаў — за мяжой. Але аплачана толькі 93,5 працэнта. Праблема неплацяжоў, стратныя бартэрныя здзелкі, зніжэнне інвестыцый прывялі да катастрафічнага стану асноўных вытворчых фондаў, павялічваюць колькасць стратных прадпрыемстваў. Аднак улады засяродзілі ўвагу на забеспячэнні прыросту аб'ёмаў вытворчасці любым коштам. У выніку сярэдняя зарплата ў вобласці цяпер складае 30 долараў (100 долараў у 1997г., 73 — у 1998г.).

● Расце колькасць прадпрыемстваў, якія скарацілі выпуск прадукцыі. У 1998 іх было 52, у 1999 — 90, альбо амаль 30 працэнтаў ад агульнай лічбы. Узровень рэнтабельнасці з 20,3 працэнта ў 1994 г. скараціўся да 10,6 працэнта ў 1998 г. Знешнегандлёвы абарот вобласці ў 1999 г. склаў толькі 84 працэнты ад ўзроўню 1998 г. Аб'ёмы і грузаабарот аўтатранспарту за 1999 г. адпаведна зменшыліся на 14,6 і 7,4 працэнта. Аб'ём інвестыцый у будаўніцтва летась знізіўся на сем працэнтаў.

● Летась рэзка ўпала ўраджайнасць зерневых — з 30,2 цэнтера з гектара ў 1998 годзе да 21,4 у 1999. Вялікі недабор зерня. На 15 тысяч тон менш сабрана цукровых буракоў. Зменшылася вытворчасць бульбы, ільноволакна. Адсутнасць трывалай кармавой базы прывяла да скарачэння грамадскага статку. Летась на 34 працэнты менш, чым у 1998 годзе было нарыхтавана кармоў. Аб'ём валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі вобласці да ўзроўню 1998 года зменшыўся ў раслінаводстве на 13,1 працэнта, у жывёлагадоўлі — на 9,6 працэнта. Страты ў 1998 годзе аграрнага сектару ад продажу малака і мяса склалі 225,5 млрд. рублёў. Каб купіць літр дызпаліва калгасам і саўгасам трэба прадаць чатыры літры першасортнага малака.

# Зарэгістравана аб'яднанне

**Можна толькі здзіўляцца настойлівасці Мікалая Аляксандравіча Мельнікава. Паўгода ён рэгулярна наведваўся ва ўпраўленне юстыцыі аблвыканкама, каб атрымаць нарэшце пасведчанне аб рэгістрацыі створанага ім гарадскога грамадскага аб'яднання ветэранаў вайны, працы і Узброеных Сіл. І дамогся свайго! Сапраўды, капля камень точыць ...**

Ранейшага Гродзенскага абласнога аддзялення Беларускага дэмакратычнага аб'яднання "Ветэран" больш не існуе. Як і наогул рэспубліканскай арганізацыі на чале з вядомым пісьменнікам Артурам Вольскім. Мінчане вырашылі, што такую структуру ім больш не падняць. Іншай думкі быў Мікалай Аляксандравіч. Не хочаце вы займацца арганізацыйнымі справамі, абыйдземся!

Спецыялістам абласнога ўпраўлення юстыцыі ў новай назве не спадабаліся словы "беларускае" і "дэмакратычнае". Давялося пагадзіцца на змены, бо М.А.Мельнікаў справядліва палічыў, што галоўнае — працягваць выкананне статутных палажэнняў, напрыклад, актыўна ўдзельнічаць у выхаванні моладзі на гістарычна-культурных традыцыях беларускага народа.

Новае аб'яднанне, як і ранейшае аддзяленне будзе прымаць удзел у рабоце Каардынацыйнага камітэта "Гродзенс-кая ініцыятыва".

**Уладзімір Кавалёў**

# МАГІЛЁЎШЧЫНА



Пяць гадоў Магілёўскую асацыяцыю «Кола сяброў» узначальвае Віталь Васількоў. Вакол гэтага рэсурснага цэнтра гуртуюцца шматлікія грамадскія арганізацыі, суполкі і аб"яднанні рэгёна.

***На здымку: Віталь Васількоў***

## Магілёўскі рэсурсна-метадычны цэнтр

У канцы снежня 1997 года па ініцыятыве васьмі арганізацый вобласці быў створаны грамадскі рэсурсна-метадычны цэнтр для аказання дапамогі няўрадавым аб'яднанням. Старшынёй абралі Уладзіміра Шанцава.

МГРМЦ — гэта саюз арганізацый, які не валодае правам юрыдычнай асобы, у адрозненне ад сяброў, якія ўваходзяць у склад цэнтра. У 1998 годзе дзякуючы новаму ўтварэнню з'явіліся такія грамадскія аб'яднанні, як магілёўская філія моладзевых арганізацый "Грамадзянскі форум", магілёўскі "Цэнтр студэнцтва". Больш за 50 асобаў стажыравіліся па-за межамі Беларусі.

У рамках МГРМЦ здзяйсняюцца некалькі праектаў. Напрыклад, гарадская асацыяцыя "Гуманітарная дапамога" ажыццяўляе праграму "Эканамічная гасцёўня". Мясцовая філія Фонду Льва Сапегі стварыла школу "Цэнтр лідэраў" і навучае каля 200 маладых людзей.

У магілёўскім грамадскім рэсурсна-метадычным цэнтры нефармальныя арганізацыі заўсёды могуць атрымаць арганізацыйную, інфармацыйную і тэхнічную дапамогу.

## "Трэці сектар" Аршаншчыны актыўна развіваецца з 1997 года

Увогуле яго станаўленне пачалося ў 1986 годзе. Тады ў Воршы ўпершыню было створана краязнаўчае таварыства "Повязь". У сакавіку 1989 года ўдзельнікі суполкі выдалі незалежны бюлетэнь " Куцейна". Частка сяброў таварыства ў верасні 1989 года ўтварыла гарадскую арганізацыю БНФ за перабудову "Адраджэньне", а ў снежні — мясцовае аддзяленне Таварыства Беларускай мовы.

Новы этап наступіў у красавіку 1991 года, калі ў Воршы прайшла хваля забастовак і мітынгаў, адбылася блакада чыгуначнага вузла. Уздымаліся эканамічныя і палітычныя пытанні.

Вясной 1997 года пачаўся сапраўдны ўздым грамадскага жыцця рэгёна. Гэта звязана найперш з прыездам у Воршу актывістаў ЗБС і Гродзенскай асацыяцыі "ВІТ". Вынікі семінара пераўзышлі ўсе чаканні. Адразу ўзнік Рэгіянальны цэнтр падтрымкі і развіцця дэмакратычных пераўтварэнняў імя аршанскага асветніка 16-га стагоддзя Філона Кміты. У маі ўтвараецца моладзевая арганізацыя "РША". У кастрычніку маладых людзей нацыянальна-дэмакратычных поглядаў аб'ядназ моладзевы цэнтр "Перспектыва".

Тады ж распачалося выданне бюлетэняў — "Моладзевы крок", "РША", "Золак", "Рэха Лукомля". Аднадумцаў сабралі першыя летнікі. Газета "Куцейна" стала штотыднёвай. Стварылася аршанская гарадская арганізацыя жанчын.

Большасць гэтых аб'яднанняў супрацоўнічаюць з цэнтрам "Супольнасць", Моладзевым інфармацыйным цэнтрам, моладзевым цэнтрам "Контур" (Віцебск), Кангрэсам дэмакратычных прафсаюзаў.

**Алесь ШУТАЎ**

## Навіны рэгёна

### ПЕРШЫЯ КРОКІ Ў ЖУРНАЛІСТЫКУ

Магілёўская рэгіянальная арганізацыя Беларускай асацыяцыі журналістаў стварыла школу журналістаў "Вольнае слова". Першы выпуск, які адбыўся летась,засведчыў, што ёсць шмат здольных маладых людзей, гатовых працаваць у дэмакратычным друку. Яны паспяхова засвоілі тэарэтычны і практычны курс.

Кіраўнік школы Сяргей Шышкін лічыць, што добрае пачынанне будзе мець свой працяг.

### ВЕДАЦЬ ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

Магілёўскі праваабарончы цэнтр рэалізаваў курс па навучанню моладзі правам і асноўным свабодам чалавека. Вучоба адбывалася ў рамках сумеснага ўкраінска-беларускага праекта фондаў Еўразія і Відроджанне. Веды набывалі таксама слухачы з іншых абласцей Беларусі. Яны некалькі разоў пабылі на Украіне.

### СТВОРАНЫ ЦЭНТР "КРЫВІЧЫ"

У Воршы дзевяць грамадскіх арганізацый раёна стварылі моладзевы рэсурсны цэнтр "Крывічы". Сярод яго ўдзельнікаў — аддзяленне Моладзевага хрысціянска-сацыяльнага саюза, ТБМ, ТБШ, моладзевы цэнтр "Перспектыва", моладзевае аб"яднанне "РША" і інш. Яны аб'ядналі свае тэхнічныя сродкі, разам арэндуюць памяшканне. Цэнтр займаецца адукацыйнымі праграмамі для моладзі, праводзіць культурна-асветныя акцыі.

### ЗБІРАЮЦЬ І РАСПАЎСЮДЖВАЮЦЬ ІНФАРМАЦЫЮ

Створана "Магілёўская інфармацыйная сетка". Выканаўцам праекта з'яўляецца рэсурсны цэнтр "Кола сяброў". Рэгіянальныя інфармцэнтры дзейнічаюць у Бабруйску, Шклове, Крычаве, Горках. Цэнтры таксама абвязаны дапамагаць грамадскім арганізацыям свайго рэгёна. Для каардынацыі работы абрана рада на чале з Валадаром Цурпанавым.

### КРАЯЗНАЎЦЫ АБ'ЯДНАЛІ ВЫСІЛКІ

Магілёўскае таварыства навуковых і гуманітарных ініцыятыў "Брама" правяло ўстаноўчую канферэнцыю Асацыяцыі краязнаўцаў Магілёўшчыны. Удзел прымалі гісторыкі, географы, філолагі вобласці.

(Матэрыялы старонкі падрыхтаваны паводле публікацый Бюлетэня асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый, бюлетэня "Супольнасць" для беларускіх няўрадавых арганізацый, Варшаўскага выдання "Беларускія ведамасці").

■ З практыкі работы

# Разам – дык мацнейшыя!

**Адольф Зацэпін – лідэр Свабоднага прафсаюза аднаго з прадпрыемстваў Гродна. Грамадская арганізацыя пакуль што не з'яўляецца сябрам "Гродзенскай ініцыятывы", але яе старшыня рэгулярна наведвае паседжанні. Лічыць, што ўступленне ў Каардынацыйны камітэт "Гродзенская ініцыятыва" – справа бліжэйшага часу. З ім наша гутарка.**

- **Адольф Міронавіч, раскажыце, калі ласка, як вы ацэньваеце дзейнасць Каардынацыйнага камітэта "Гродзенская ініцыятыва"?**

- Станоўча, бо Камітэт сапраўды выконвае ролю арганізатара ўсіх апазіцыйных рухаў нашага рэгіёна. Менавіта пагэтаму я і прыходжу на паседжанні. Тут можна пачуць меркаванні прадстаўнікоў розных арганізацый і партый пра надзённыя палітычныя і сацыяльныя праблемы. Увогуле, мы супрацоўнічаем з рознымі суполкамі ў той сферы, дзе нашы інтарэсы супадаюць. Разам з Каардынацыйным камітэтам "Гродзенская ініцыятыва" удзельнічалі ў летаіняй акцыі "Дэмбель'99", пратэставалі супраць падпісання саюзнай дамовы з Расіяй.

- **А як Вы ацэньваеце дзейнасць Свабоднага прафсаюза на прадзільнай фабрыцы, дзе працуеце?**

- Свабодны прафсаюз у апошнія месяцы ініцыяваў рабочы рух за павышэнне заробку. Ясна, што ўлады выконваюць далёка не ўсе нашыя патрабаванні, Аднак у снежані заработную плату паднялі на 20%, а ў студзені яшчэ на 38. Такім чынам, цяпер сярэдні заробак складае 28 тысяч дэнамінаваных рублёў.

Усяго прафсаюз налічвае 68 сябраў. Ягоны рост прыпыніўся пасля выдання ў мінулым годзе дэкрэта аб перарэгістрацыі. Тут кіраўніцтва фабрыкі пачало нам перашкаджаць. Яно не давала нашаму Свабоднаму прафсаюзу карыстацца юрыдычным адрасам прадпрыемства, абвесціла нашу дзейнасць незаконнай.

Акрамя гэтага, улады ўскосна аказваюць ціск на рабочых. Напрыклад, сын аднаго супрацоўніка займаецца ў вайсковым вучылішчы. Дык ён расказваў, што дзецям, чые бацькі неяк звязаныя з незалежнымі арганізацыямі, заніжаюць адзнакі ды ўвогуле ствараюць розныя перашкоды. Пагэтаму некаторыя рабочыя выходзяць з прафсаюза. Але мы разлічваем, што хутка нашыя шэрагі ізноў пачнуць папаўняцца. Справа ў тым, што прадпрыемства спыніла працоўную дзейнасць з-за недахопу сыравіны, якую мы атрымліваем з Віцебску і Наваполацку. Да таго ж, кіраўніцтва не паспявае выплаціць заробкі. Таму незадаволенасць сярод рабочых расце. Пяць чалавек нядаўна ужо напісалі заявы аб уступленні ў прафсаюз.

- **Якой дапамогі вы чакаеце ад Каардынацыйнага камітэта "Гродзенская ініцыятыва"?**

- На апошнім паседжанні нам паведамшлілі пра Інтэрнэт ды электронную пошту. Прапанавалі карыстацца. Але я, напрыклад, увогуле не ўмею працаваць на камп'ютэры. Таму, на жаль, пакуль што не магу карыстацца паслугамі сучаснай тэхнікі. Трэба спачатку навучыцца абыходзіцца з ёй.

**Гутарыла Інга АСТРАЎЦОВА**

# Дарагі наш чалавек

Паўла Антонавіча Жука савецкія органы дзяржбяспекі арыштавалі ў лістападзе 1946 года. За тое, што нехта падпаліў будынак вузла сувязі ў Браславе, ён беспадстаўна атрымаў дзесяць гадоў лагераў. Вязень пад нумарам 268 прайшоў Усольлаг, Карагандзінскія лагеры, Нарыльсклаг. Зведаў усё пекла савецкай "папраўчай" сістэмы. Выжыў назло ўсім смярцям. Рэабілітаваны ў 1967 годзе.

І застаўся чалавекам – сціплым, інтэлігентным, чуйным да людскога гора. Цяпер Павел Антонавіч узначальвае абласную асацыяцыю ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. Прымае актыўны ўдзел у рабоце Каардынацыйнага камітэта "Гродзенская ініцыятыва".

**На здымку: П.А.ЖУК.**



# Вітаўт Вялікі застаецца з намі

**Яшчэ які год назад актывісты моладзевага Альянсу імя Вітаўта Вялікага абмяжоўваліся тым, што бралі непасрэдны ўдзел у арганізацыі і правядзенні народных святаў накшталт Купалля, дат нацыянальна-вызваленчага руху (угодкі БНР), спартовых спаборніцтвах, выпуску маленькіх улётак з расповедам пра жыццё і дзейнасць таго ж Кастуся Каліноўскага ды іншых змагароў за народнае шчасце.**

Аднак арганізацыя станавілася на ногі, пашыраліся гарызонты яе дзейнасці. Першым буйным праектам сталася леташняе выданне двух сур'ёзных работ – альманахаў "Беларускі нацыянальны рух. Гародня, 1918-1920 г.г." і "Гародня ў паўстанні 1830-31 г.г.". Аўтары – адпаведна Андрэй Чарнякевіч і Сяргей Данскіх. Выданні выйшлі ў серыі "Гарадзенскія апосталы".

Прыхільнікі мінуўшчыны ўжо ацанілі змест гэтых брашураў. У выданні прымалі дзейсны ўдзел сябры рэдкалегіі Эдуард Дзмухоўскі і Павел Мажэйка, мастак Алесь Сураў, рэцэнзент Дзмітрый Караў, гісторыкі Алесь Госцеў і Ігар Трусаў. Пэўную дапамогу ў рабоце над падрыхтоўкай альманаху аказалі рэдакцыя газеты "Пагоня", абласное грамадскае аб'яднанне "Ратуша".

Моладзевы Альянс імя Вітаўта Вялікага з'яўляецца сябрам Каардынацыйнага камітэта "Гродзенская ініцыятыва".

**Інга Астраўцова**

Бюлетэнь Каардынацыйнага Камітэта «Гродзенская ініцыятыва»

Выдаецца на беларускай мове.
На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна.
Адрас: 230023 г. Гродна, вул. Будзённага, 48-а, п.13
тел./факс. 96-74-69
E-mail: mil@ratusha.grodno.unibel.by

Наклад 299 асобнікаў
Адказны за выпуск Антон Лабовіч
Надрукавана пры падтрымцы ГВГА «Ратуша»